*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 32(88) ◈ 12 жніўня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## Поступ тыдня

***ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ВЯЧАСЛАЎ КУЗНЯЦОЎ ПРЫНЯЎ НАДЗВЫЧАЙНАГА І ПАЎНАМОЦНАГА ПАСЛА КІТАЙСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ВАН СІНДА.*** Былі абмеркаваны аспекты маючага адбыцца візіту дэлегацыі Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў на чале з намеснікам старшыні пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Сайфудзінам.

**МІНІСТР АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПАВЕЛ КАЗЛОЎСКІ НАЗВАЎ ПРЫКЛАДНУЮ ДАТУ (31 СНЕЖНЯ 1992 ГОДА), КАЛІ БУДУЦЬ ПРЫВЕДЗЕНЫ ДА ПРЫСЯГІ РЭСПУБЛІКАНСКІЯ ВОЙСКІ.** Прысяга, на думку міністра, павінна прымацца індывідуальна. Сам міністр абароны, відаць, прыме прысягу на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета.

***МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ І МІНІСТЭРСТВА СУВЯЗІ І ІНФАРМАТЫКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПАВЕДАМІЛІ,*** *што прыём падпіскі на рэспубліканскія газеты і часопісы на 1993 год мяркуецца арганізаваць у два этапы — спачатку на першае, а потым на другое паўгоддзе. Прыём індывідуальнай і ведамаснай падпіскі на першае паўгоддзе будучага года згодна з каталогам рэспубліканскіх газет і часопісаў праводзіцца з 10 жніўня па 31 кастрычніка 1992 года.*

**ЕЎРАПЕЙСКІ БАНК РЭКАНСТРУКЦЫІ І РАЗВІЦЦЯ Ў ХУТКІМ ЧАСЕ ВЫДЗЕЛІЦЬ БЕЛАРУСІ 38,8 МІЛЬЕНАЎ ДОЛАРАЎ** на стварэнне сістэмы тэлекамунікацый.

***У КІЕВЕ ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ*** *аб супрацоўніцтве паміж КДБ Беларусі і Службай бяспекі Украіны.*

**У МЕНСКІМ ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ГАСЦЯМ БЕЛАРУСАМ З АМЕРЫКІ, НАЛАДЖАНАЯ ЗГУРТАВАННЕМ «БАЦЬКАЎШЧЫНА».** Было абмеркавана пытанне аб скліканні першага Кангрэса беларусаў усяго свету.



*Прысягаць — Бацькаўшчыне!* Стар. 2.

**Сталіца наша — Менск** Стар. 3.

**Беларуская мова ва уніяцкім кнігадрукаванні** Стар. 4.

Міхась Варанец — маёр Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь. У сваім вайсковым калектыве ўзначальвае суполку ТБМ імя Ф. Скарыны. Відаць, дзякуючы і яго клопатам.большаюць у войску шэрагі прыхільнікаў беларускага Адраджэння.

**На здымку:** маёр Міхась Варанец.

**Фота Міхася ХАМЦА.**

## *Калі спіць сумленне*

Чуткі аб тым, што замежная гуманітарная дапамога ідзе ў Брагіне, як кажуць, «налева», луналі даўно. Падставы, відаць, былі: гарадок маленькі, усё навідавоку. Развеяць сумненні ўзялася група энергічных жанчын, якія скіравалі свой позірк на тутэйшую метэастанцыю.

Тым часам начальнік станцыі — прадстаўнік дабрачыннай арганізацыі «Дзеці Чарнобыля», дэпутат абласнога Савета Наталля Уладзіміраўна Мікіценка — якраз прымала чарговы караван з Германіі. Як звычайна, усё прывезенае выгружалася на тэрыторыі метэастанцыі. Двое сутак гэты аб'ект знаходзіўся ў полі зроку жанчын, і, трэба сказаць, не дарма. Каля пяці гадзін раніцы з будынка станцыі выйшла з мехам за плячыма майстар Брагінскага камбіната бытавога абслугоўвання Тамара Асіпенка. Калі ж яе паспрабавалі затрымаць, то Асіпенка, кінуўшы небяспечную ношу, пусцілася наўцёкі. Міліцыя падаспела ў час. Высветлілася, што на метэастанцыі тады знаходзілася яшчэ пяць асоб, сярод якіх і сама Мікіценка. Ахоўнікі правапарадку сталі гартаць дакументы, паводле якіх вынікала, што ў Брагін з Германіі даставілі 950 пасылак. Але ў наяўнасці іх аказалася толькі 912, частка, дарэчы, ужо ў распакаваным выглядзе. Па словах Н. Мікіценкі, 26 пасылак былі адпраўлены ў школу. Куды ж падзеліся яшчэ 12 пасылак? Гэта павінны вызначыць адпаведныя органы.



Раённая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па відавочнаму факту раскрадання. Пры гарвыканкаме стварылі камісію, якая адразу перадала груз тым, каму ён прызначаўся: вучням школы № 1, шматдзетным сем'ям, інвалідам і састарэлым.

...З сумнымі думкамі вяртаўся я з Брагіна. Тое, што тут адбылося, выглядае, мякка кажучы, непрыглядна. Дададзім: гэта не першы выпадак, калі ў Брагіне выкрываюцца аналагічныя з'явы. Скажам, вядома, дзякуй і грамадскасці, і міліцыі, і пракуратуры: яны ў шапку не спяць. Але дзе ж чалавечы сорам? Дзе сумленне?

Непакоіць, як ідуць справы з размеркаваннем гуманітарнай дапамогі ў іншых рэгіёнах Рэспублікі Беларусь? Чаму гэтак часта тое, што прызначалася ахвярам чарнобыльскай трагедыі, мы бачым у камісіёнках, на рынках, у розных пячыстых на руку дзялкоў?

**А. ТАЛОЧКА.**
**(Белінфарм).**

**На здымку:** дапамога з Германіі, урэшце, дайшла да адрасатаў. Яе атрымалі вучні брагінскай школы № 1.

**Фота аўтара.**

# Нездаровы сімптом

Часта можна чуць: марудна адраджаецца ўсеагульнае ўжыванне беларускай мовы таму, што ў гэтым не падаюць прыкладу дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі, іх кіруючыя і адказныя работнікі. Святая праўда. Няма сумнення: калі б дзелавыя размовы, дэбаты ў парламенце, справаводства вяліся на роднай мове, куды эфектыўней ішоў бы працэс беларусізацыі.

На жаль, гэтага пакуль не адбываецца. І правільна піша пісьменнік Г. Далідовіч у артыкуле «Славяне — не толькі рускія альбо рускамоўныя» («Народная газета» ад 27 чэрвеня г.г.), што не пераваяліся ў нас адказныя работнікі «не з вельмі пачцівымі адносінамі да мясцовых звычаяў, мовы і культуры». Сказана гэта з нагоды пікетавання будынка Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь прыхільнікамі так званага Усебеларускага славянскага сабора, які ў сваіх справах не пазбаўлены шавіністычных настрояў (тэндэнцый).

Дык вось, я не хачу праводзіць пейкую паралель, але мушу заўважыць, што нешта падобнае можна назіраць — дзе б вы думалі?— у нашых рэспубліканскіх газетах, якія, здавалася б, павінны быць пачынальнікамі працэсу авалодання роднай мовай рознымі пластамі грамадства. Факты? Калі ласка.

Зайдзіце, напрыклад, у рэдакцыю «Вячэрняга Мінска» і прапануйце матэрыял на беларускай мове. У супрацоўнікаў раптам прападае інтарэс і да вас і да вашай карэспандэнцыі.

Падобнае вы ўбачыце і ў рэдакцыі «Беларускай нівы». А здавалася б, каму-каму, а сельскай газеце належала б быць у першых шэрагах адраджэння не толькі вёскі, яе побыту, але і роднай мовы. А пра «Советскую Белоруссию» і гаворкі не можа быць. Як непарушная скала, стаіць яна на сваіх закаранелых пазіцыях, і на яе старонках беларускіх тэкстаў не ўбачыш. Дарэчы, ці не пара яе выдаўцам падумаць і аб новай назве газеты, што адпавядала б духу сённяшняга дня.

Чамусьці ў апошні час з'яўляецца менш матэрыялаў на роднай мове ў такіх двухмоўных газетах, як «Народная газета», «Рэспубліка» і інш. Калі на пачатку іх заснавання для беларускіх тэкстаў былі шырока адкрыты дзверы, то цяпер яны прыкметна сталі звужацца. Часам на іх старонках больш за палавіну тэкстаў на расійскай мове, прычым на больш важныя і актуальныя тэмы. І якія тэксты! Не толькі няштатных аўтараў, але і ўласных карэспандэнтаў, якія, здавалася б, павінны пісаць на роднай мове.

Канешне, не ўсё тут залежыць ад волі калектыву, рэдактара. Бясспрэчна, двухмоўнасць выдання ствараае пэўныя цяжкасці як у рэдагаванні (патрэбен кампетэнтны перакладчык), так і ў друкарскім афармленні. Усё гэта звязана з дадатковымі фінансавымі затратамі. Тым не меней, «Мінская праўда» і «Настаўніцкая газета», якія раней друкаваліся толькі на беларускай мове, у апошні час кінуліся ў адваротны бок — хоць зрэдку, але і яны пачалі друкаваць рускамоўныя матэрыялы.

Што ж атрымліваецца? Чым больш усталёўваецца палітычны і эканамічны суверэнітэт рэспублікі, тым горш ідзе працэс адраджэння роднай мовы і культуры? І крыўдна, што робіцца гэта рукамі тых, хто паводле свайго абавязку павінен быць носьбітам гэтага патрыятычнага руху, руху адраджэння беларускага этнасу.

Думаецца, з такой практыкай нельга мірыцца. Тут павінны сказаць сваё слова Міністэрства інфармацыі і Міністэрства культуры. Яны ж пакуль глядзяць на ўсё гэта праз пальцы.

**Яўхім ІВАНОВІЧ,**
**настаўнік.**
**г. Менск.**

# Прысягаць — Бацькаўшчыне!

Калі маскоўскія беларусы-вайскоўцы пачулі пра ператварэнне Беларускай ваеннай акругі ў Беларускае войска, у нас з'явілася надзея, што цяпер суверэнітэт Беларусі будзе ўмацаваны і абаронены.

Але гэтая надзея ў хуткім часе знікла, бо першыя крокі апарата Міністэрства абароны Беларусі, па звестках, што далятаюць да нас з Бацькаўшчыны, выклікаюць, мякка кажучы, здзіўленне. Міжвольна ўзнікаюць пытанні, на якія станоўча адказаць цяжка.

Чаму, напрыклад, кіраўніцтва Міністэрства абароны на чале са спадаром П. Казлоўскім не хоча прысягаць беларускаму народу, беларускаму ўраду?

Растлумачваюць, што яны ўжо аднойчы прысягалі на вернасць народу, а прысягаюць, маўляў, адзін раз у жыцці.

Ці не здаецца Вам, што гэта хітрыкі? Так, вайсковец прысягае сваёй дзяржаве адзін раз. А калі той дзяржавы, якой ён калісьці прысягаў, ужо не існуе? Што рабіць тады?

А цяпер давайце непрадузята паглядзім і ўявім сабе, каго будуць абаранць не беларускія афіцэры беларускага войска, калі яны прысягалі на вернасць СССР і прысягаць Беларусі адмаўляюцца? Адказ відавочны: абараняць яны будуць прыхільнікаў гэтага Саюза.

Вядома, што такіх афіцэраў, пераважна рускіх у былой ЧБВА больш за 80 %. Усе яны прысягалі дзяржаве, якой ужо няма. Усім таксама вядома, што Расія абвясціла і лічыць сябе пераемніцай сканалага СССР.

Высновы атрымліваюцца відавочныя: яны будуць абараняць інтарэсы таго народа, якому прысягалі, г. зн. расійскага, будуць выконваць загады расійскага, а не беларускага ўрада, нягледзячы на тое, што корміць і апранае іх Рэспубліка Беларусь, беларускі народ.

Вам нічога не нагадвае такое становішча? Тады ці не з'яўляецца гэтае войска акупацыйным? Ці ж Вам хочацца, каб у нас на Беларусі адбыліся такія ж падзеі, як у Грузіі ці Малдове? Бо сцэнарый вядомы, ён неаднойчы ўжо дасканала адпрацаваны нашым усходнім суседам. Праглядваецца і мэта гэтых «беларускіх» генералаў і афіцэраў — не выпусціць Беларусь з-пад дыктату «старэйшага брата», пакінуць, наколькі магчыма, усё так, як было раней у СССР, у імперыі.

Гэтыя высновы пацвярджаюцца і ўціскам, які пераходзіць у ганенні, з боку кіраўніцтва Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь у адносінах да афіцэраў з Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Таму, відаць, і не могуць трапіць у Беларускае войска тысячы свядомых беларускіх афіцэраў, якія знаходзяцца па-за межамі нашай Бацькаўшчыны і хочуць служыць адно ёй. Але, на жаль, яны не патрэбны. Бо патрэбны чужынцы з дзіўнымі поглядамі — «служыць» Беларусі, не прысягаючы ёй, г. зн. не адказваючы за яе бяспеку, абарону, суверэнітэт.

Адкажыце, калі ласка, у якой краіне свету, апроч сучаснае Беларусі, магчыма такое?..

Жыве незалежная Беларусь!

**І. ПАЎЛОЎСКІ,**
**палкоўнік запасу, сябра маскоўскай суполкі Згуртавання беларусаў-вайскоўцаў.**

# *«Непрыдуманая гісторыя»*

Мой сябар з'яўляецца прыхільнікам Адраджэння. Мае вышэйшую адукацыю. Але папаў пад скарачэнне. І мусіў уладкавацца на працу па сярэдне-спецыяльнай адукацыі, якая ў яго была. Таму па вядомых прычынах не называю ні яго прозвішча, ні ўстанову.

На новым месцы ён пачаў весці дакументацыю на беларускай мове. Работа ішла як трэба. Хібаў не было.

Ды вось кіраўнік установы заўважыў, што сябра піша па-беларуску. Пішу дакладна, што казаў кіраўнік: «То, что Вы интересуетесь белорусским, я Вас поддерживаю. Но документы оформляйте по-русски». На пярэчанне сябра: «Я Вас не разумею»,— кіраўнік: «Что здесь понимать. Пишите по-русски, и всё!» Цяпер мой сябар не ведае, як быць?

Ці прытрымлівацца роднай мовы? І гэтым быць удзячным сваім дзядам-беларусам і маці, якія яго выхавалі сумленным, добразычлівым, працавітым (бацька загінуў на вайне). Быць у рэшце рэшт свядомым беларусам. Але ў той жа час быць і ў няміласці кіраўніка...

Ці быць, як казаў вядомы чалавек, «рахманай авечкай»? Вядома, што ў нас ёсць газета гарвыканкама. Але ўсе ведаюць не горш нашага накірунак «Зары». Тым больш, што сябар калісьці пісаў у абласную газету аб сваім беспрацоўі і пісаў на роднай мове. Але надрукавалі па-расійску і, вядома, не зусім дакладна. Хоць беларускія сродкі масавай інфармацыі павінны даваць так, як піша аўтар. Атрымліваецца, што беларусу, каб пісаць па-беларуску ў Беларусі, трэба прасіць дазволу. Ці як?

Я разумею, што гэта балючае пытанне для ўсіх свядомых беларусаў. Але як быць майму сябру ў дадзеным выпадку? Прашу адказаць: 224023 г. Брэст, вул. Маскоўская, д. 332/2, кв. 71.

**Васіль БАРБОЛІН.**

# Гучала роднае слова

Закончыўся вучэбны год у школах нашай паўсуверэннай рэспублікі. Чаму паўсуверэннай? Па многіх прыкметах. Адна з іх — гэта валоданне ў поўнай меры роднай мовай. Сказаць папраўдзе, неяк крадучыся ўваходзіць яна ў наш побыт. Хацелася б адзначыць пэўныя зрухі ў гэтым напрамку ў нашай школе. Урачыстасці з нагоды заканчэння навучальнага года праходзілі каля помніка загінуўшым на мінулай вайне жыхарам ваколіц школы. Уступным словам на беларускай мове адкрыла свята дырэктар школы Барава Аляксандра Мікалаеўна. Другія прамоўцы таксама імкнуліся гаварыць на роднай мове. Многім было нялёгка. Спрацоўваў даволі працяглы сіндром адчужэння. Усё ж, калі кіраўнік валодае дастаткова роднай (беларускай) мовай, то і падначаленыя імкнуцца весці гаворку па нацыянальнай мове. Як у нашым жыцці многа залежала і сёння залежыць ад кіраўніцтва! І вось тут, на гэтым урачыстым свяце вучняў, дзякуючы кіраўніку, гучала роднае слова. А пачала б яна размову па рускай мове, услед за ёй гаварылі б на імперскай мове падначаленыя. Ніхто і не асэпрэчваў бы такога ходу ўрачыстасці. Гэта вынік дзесяцігадовай рабскай пакорлівасці, падпарадкавання свядомасці жаданням кіраўніка.

**А. У. ПЯТРЫКА,**
**настаўнік.**
**Навагрaдскі раён.**

# Неспадзяваны ўзлёт

Летась у Докшыцкі раён «Наша слова» прыходзіла ўсяго ў адным экземпляры.

Сёлета 27 паасобнікаў атрымліваюць падпісчыкі. Два экземпляры прадаюцца ў розніцу. Такім пераменам можна радавацца, але ўсё ж гэта радасць няпоўная. Як-ніяк, а ў раёне — дваццаць дзевяць сярэдніх і няпоўных сярэдніх школ. І далёка не ўсе яны атрымліваюць «Наша слова» — газету, якая ідзе ў авангардзе барацьбы за пашырэнне ўжытку роднай мовы, яе адраджэння. У докшыцкай старонцы — 51 бібліятэка, 42 клубныя ўстановы. Каму ж, як не ім, быць прапагандыстамі роднага слова?

**Іван ЛАЗУКА,**
**рэдактар Докшыцкай раённай газеты «Родныя вытокі».**

*Меркаванні*

# Лацінка — не выйсце

**Пераход на лацінку — зусім не шлях да выратавання нашай мовы, як мяркуюць некаторыя, хутчэй наадварот, і вось чаму.**

**Цяпер у насельніцтва вельмі павольна, але ўсё ж такі ўзрастае цікавасць да роднай мовы. Аднак справа ў тым, што вуснай беларускай мовы ў нас у карыстанні амаль няма (калі не лічыць тэлебачанне і радыё). Людзі на ёй у асноўным чытаюць і пішуць. Пераход на лацінку адаб'ецца менавіта на чытанні і пісьме. Авалодаць беларускай мовай стане значна цяжэй. У выніку мы страцім усё, што набылі (наклад газет, я ўпэўнены, панізіцца да соцень ці меней асобнікаў). Зараз жа нашу мову выратоўвае менавіта блізкасць з рускай, як гэта ні прыкра.**

**Дарэчы, чым абгрунтаваны такі пераход? Хто сказаў, што кірыліца была навязана беларусам? Хіба Ф. Скарына і С. Будны друкавалі свае кнігі не на кірыліцы? Іншая справа, што варта вярнуцца да «тарашкевіцы».**

**Таму я лічу пераход на лацінку немэтазгодным.**

**Сярожа ПЕТРЫКЕВІЧ,**
**вучань СШ № 188 г. Менска.**

*WIS*

**Былы старшыня пінскага згуртавання «Палесьсе» заявіў пра яго самароспуск і стварэнне ліквідацыйнай камісіі. Вырашыла парваць з кіраўніцтвам у Менску і Драгічынская суполка. На яе думку дзейнасць гэтага кіраўніцтва не накіравана на адраджэнне самабытнай культуры палешукоў, а газета «Збудінне» выдаецца на незразумелай мове.**

**Акрамя ўсяго, выявілася, што суполкі «Палесьсе» ў Целяханах, Століне і на Лунінеччыне ніколі не існавалі.**

** За апошнія 20 гадоў праз урбанізацыю мы згубілі амаль 2 мільёны вясковых вучняў.*

** З 18 да 24 працэнтаў павялічыўся аб'ём беларускай літаратуры ў бібліятэках рэспублікі.*

** Амаль у 5 разоў узрасла колькасць этнаграфічных куткоў у школах.*

# СТАЛІЦА НАША — МЕНСК

Усім, хто хоць крыху цікавіць гісторыяй Беларусі, вядома, што падзеі апошніх трох вякоў пакінулі надзвычай вялікі адбітак на ўсіх галінах нашага жыцця. Перамена адбілася і на ўласных назвах. Яны патрабуюць неадкладнай дзяржаўнай нармалізацыі ў адпаведнасці з беларускай гісторыяй і законамі беларускай мовы. Справа гэта ўпісваецца ў больш шырокую задачу адраджэння гістарычнай памяці нашага народа. Рэабілітацыя назвы нашай сталіцы стала б добрым пачаткам такой работы.

Для правільнага разумення пытання, адкуль узялася форма *Мінск*, варта напомніць думкі некаторых вучоных і факты, якія сведчаць: назва *Менск* была жывой да самай яе забароны ў 1939 годзе.

Пачаткам дыскусіі варта лічыць заўвагу Я. Карскага наконт з'яўлення формы *Мінск*, выказаную ім у працы «К истории белорусского языка в XVII ст.» (Известия по русскому языку и словесности, т. III, кн. 1., Л., 1930). Адзначыўшы, што ў беларускіх помніках XVII ст. спарадычна з'яўляюцца ўкраінізмы, Карскі пісаў: «Украинизмы проникли не только в рукописи, но даже в местные названия: старые, например, *Мъньскъ, Несвъж* превратились в *Минск, Несвиж*, с другой стороны — *Пинский* в Густынской летописи под 1232 г. имеет вид *Пънский»*. Тут варта зрабіць некалькі заўваг. Першая і галоўная: выдатны знаўца беларускай мовы не прызнаваў, што форма *Мінск* утварылася па законах беларускай мовы, а бачыў у ёй запазычанне. Другая. Карскі, згадваючы і адзначаючы, што «вообще в Белоруссии в это время развивалась полонизация», тым не менш скінуў з рахунку гэты экстралінгвістычны фактар. Ён звярнуў увагу, што ў сувязі з дзейнасцю праваслаўных брацтваў і іх школ на Беларусь у XVII ст. прыязджалі працаваць адукаваныя выхадцы з Украіны, і дапусціў магчымасць скажэння імі формы *Менск* на *Мінск*. Думаецца, Карскі не зрабіў бы такога дапушчэння, каб звярнуў увагу, у якіх жа помніках з'яўляецца форма *Мінск:* у рэлігійных і навуковых, што выйшлі з-пад пяра гэтых дзеячаў, дзелавых і дзяржаўных дакументах, што пісаліся мясцовымі чыноўнікамі або нават у каралеўскай канцылярыі, г. зн. у дакументах, якія выйшлі з-пад пяра тых людзей, што «развивали в это время полонизацию». Ён таксама не сказаў, ці замацаваліся ў беларускай мове адзначаныя ім у «Трыёдзі каляровай» выпадкі замены *яць* на *і, і* на *ы* і іншыя ўкраінізмы. І трэцяя заўвага. Без аналізу Я. Карскі далучыў да *Мінска* і *Нясвіж*. Але ў гэтага тапоніма іншая гісторыя. Хутчэй за ўсё, у слове *Нясвіж* мы маем этымалагічнае *і*. Каб вызначыць яго гісторыю (этымалогію), трэба звярнуць увагу на іншыя геаграфічныя назвы, блізкія па аснове, напрыклад, р. *Нясвяча* (прыток Пцічы), *Несвіч* (прыток Брагінкі). Параўнайце таксама геаграфічныя назвы (без фарманты *не): Сьвібло, Сьвідня, Свіслач, Свір, Свіцязь* і інш. Паланізацыя назвы *Нясвіж* адбылася якраз у бок замены *і* на *е*. Калі яшчэ ў пачатку XVII ст. Радзівіл падпісваўся па-польску «князь з Нясвіжа», то пазней па-польску сталі пісаць і пішуць цяпер толькі *«Несвеж»*, відаць, у выніку прыпадабнення яго да слова *свежы*.

Думку Я. Карскага наконт прычыны замены назвы *Менск* на *Мінск* падтрымаў А. Вяржбоўскі ў артыкуле «Балтызмы ў беларускай мове» (Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук, 1959, № 2. С. 127).

Першай грунтоўнай працай, у якой паказана храналогія, акалічнасці і вызначаны прычыны замены назвы нашай цяперашняй сталіцы з *Менска* на *Мінск*, быў артыкул «Ці ўкраінскі ўплыў на беларускую тапанімію» праф. А. Абрэмбскай-Яблоньскай, загадчыцы кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, апублікаваны ў навуковым часопісе «Славія арыенталіс» (№ 2, 1973 г.). Паставіўшы пад сумненне магчымасць уплыву фанетыкі іншай мовы на тапонімы ў аддаленай ад Украіны мясцовасці, у некантактнай зоне, А. Абрэмбска-Яблоньска звярнула ўвагу на тое, што этымалогія тапоніма *Мінск* празрыстая, а дакументы, па якіх мы можам прасачыць гісторыю яго з'яўлення і пашырэння ў беларускай мове, шматлікія. Гэта, перш за ўсё, афіцыйная дзелавая пісьменнасць, а не рэлігійныя творы. (Ад сябе можам прапанаваць апаненту прааналізаваць хоць бы адзін XXXVI том «Актов, относящихся к истории Западной России», дзе змешчаны менскія дакументы).

Прааналізаваўшы беларускую летапісную і дзелавую пісьменнасць, перш за ўсё, Метрыку Вялікага княства Літоўскага, і адпаведныя польскія (уключаючы і на лацінскай мове) помнікі і дакументы, у якіх фігуруе наш *Менск*, А. Абрэмбска-Яблоньска адзначыла, што форма *Міньск* фіксуецца ў лацінскамоўных польскіх дакументах з 1502 года, а ў беларускіх помніках першапачатковая форма з *е* захоўваецца даўжэй і пазней. І што надзвычай важна, А. Абрэмбска-Яблоньска не разглядае нашу геаграфічную назву ізалявана, а прасочвае сувязь з аналагічнай польскай. Яна адзначае, што «назва *Міньска Мазавецкага* стабілізуецца раней і вельмі паслядоўна захоўвае форму з *і* замест *е*». Абапіраючыся на «Гістарычную і сучасную фаналогію польскай мовы» З. Шцібэра, яна паказвае і прычыну гэтай перамены: «З'ява гэтая знаходзіцца ў плоскасці старапольскай (з XIV ст.) змены групы *ен* на *ін*, чаму яшчэ спрыяла двухбаковае палатальнае акружэнне *мень — мінь*, чаму пацвярджэнне знаходзім у сучасных, але і не новых, чаргаваннях у прозвішчах *Каменьскі — Камінькі, Ясеньскі — Ясіньскі*... Гэты працэс, зразумелы на грунце польскай мовы, не меў падстаў, каб магчы адбыцца ў мове беларускай, дзе не адбывалася змены *ен* на *ін»*.

Як бачым, прафесар А. Абрэмбска-Яблоньска згодна з Я. Карскім, што адзначаная змена немагчыма на грунце беларускай мовы, але прычыну бачыць у іншым. Яна зрабіла выснову, што *«Мінск* беларускі з *і* ў корані мог прыпадабніцца да *Міньска Мазавецкага* на шляху польскай адміністрацыйнай і моўнай экспансіі». Выроўніванне тэрміналогіі ў канцылярыях адной дзяржавы (Рэчы Паспалітай) пасля Люблінскай уніі прывяло да аднолькавага напісання паводле польскага ўзору і назвы нашага горада. Тым больш, што пасля Люблінскай уніі, асабліва ў XVII ст. разам са з'яўленнем і пашырэннем ужывання формы *Мінск*, паланізмы ідуць у беларускую пісьменнасць неабмежаваным патокам.

Звернемся да працы Н. Вайтовіч «Баркулабаўскі летапіс» (1977), прысвечанай аналізу мовы гэтага помніка. Па-за ўвагай Н. Вайтовіч не застаўся той факт, што ў летапісе пры норме напісання *Менск* (6 выпадкаў) сустрэлася і форма *Мінск* (1 выпадак). Дарэчы, яна адзін з першых у беларускай пісьменнасці даследчык, што далучаецца да думкі Карскага і піша: «З'яўленне *і* замест *ѣ* пад націскам у беларускіх помніках можна лічыць украінізмам... Але можна дапусціць, што вымаўленне *і* на месцы *«яць»* у гэтых словах было падтрымана вымаўленнем *е* на месцы *«яць»*, якое зафіксавана на значнай тэрыторыі сучасных паўднёва-заходніх гаворак Беларусі, а ў больш ранні перыяд магло быць пашырана і на большай тэрыторыі» (с. 50). Варта падкрэсліць, што гэта толькі дапушчэнне, што ніякіх абгрунтаванняў і падмацаванняў яму не прыводзіцца ні з Меншчыны, ні, тым больш, з Магілёўшчыны, дзе створаны «Баркулабаўскі летапіс». Выкажам здагадку, што Н. Вайтовіч не была знаёма з артыкулам А. Абрэмбскай-Яблоньскай, бо інакш яна б звярнула ўвагу, што мова стваральніка гэтага летапісу ў немалой ступені спаланізавана. Тут маем не толькі тэрміны-паланізмы *(вотовати, конвокация, кролевство, оскаржене)*, але і многа побытавых слоў, форм і зваротаў: *вшеляково, вжды, вобец, ехалисьмы, зезволити на то, неуставичный, не вем, поселств с килку поветов, яким же кольвек* і многа падобных. Натуральна было б дапусціць, што носьбіт такой спаланізаванай мовы для разнастайнасці, побач са звычайнай для яго народнай формай *Менск*, адзін раз выкарыстаў і шырокаўжывальную к таму часу ў польскай дзелавой пісьменнасці форму *Мінск*. А такое вар'іраванне было нормай тагачаснай пісьменнасці. Параўнайце ў самім «Баркулабаўскім летапісе»: «князь иванъ васильевичъ... град славныи великии полоцок взялъ; влдку полоцкого; городничая полоцкая і корол стефанъ... под княземъ... иваномъ васильевичом полтескъ замокъ взялъ».

На гэтым канчаецца, калі можна так сказаць, чыста навуковае, лінгвістычнае асэнсаванне змены формы *Менск* на *Мінск*. У апошнія гады цікавасць да гэтага пытання абудзілася ў сувязі з тым, што шэраг выданняў і значная колькасць носьбітаў беларускай мовы зноў вярнуліся да формы Менск, ліквідаванай у 1939 годзе. А паколькі інтарэсы як прыхільнікаў, так і праціўнікаў аднаўлення назвы аказаліся «падфарбаванымі», то гэта адбілася на аб'ектыўнасці некаторых публікацый, перш за ўсё на адборы адных фактаў і ігнараванні іншых, на метадах вядзення дыскусіі і г. д. Праціўнікі аднаўлення назвы спрабуюць даказаць, што змена формы адбылася па ўнутраных законах беларускай мовы, а не з'яўляецца запазычаннем з іншай.

Каб зацікаўлены чытач змог сам супаставіць усё і суаднесці з вышэйпададзеным, варта згадаць важнейшыя публікацыі, падкрэсліўшы адметнае ў іх.

У ліку першых варта назваць невялікі артыкул У. Дзянісава «Як Менск стаў Мінскам» («ЛіМ», 17.11. 1989 г.). Ён цалкам прыняў абгрунтаванне замены, якое дала А. Абрэмбска-Яблоньска, і прапанаваў зацікаўленым пазнаёміцца з яе працай. Але дарэмна, бо тыя апаненты, хто пісаў пасля У. Дзянісава, працу А. Абрэмбскай-Яблоньскай усё ж праігнаравалі.

15.V.1991 года ў «Звяздзе» быў надрукаваны артыкул праф. А. Жураўскага «Мабыць, лепш «Менск»? Прывёўшы першапачатковыя летапісныя напісанні *Мънескъ*, А. Жураўскі справядліва адзначае, што «ў пазнейшых беларускіх летапісах ранейшая назва *Мънескъ* падаецца ў выглядзе *Менскъ*, і такая трансфармацыя з'яўляецца заканамернай з пункту погляду гістарычнага развіцця беларускай мовы». А вось наконт далейшай замены назвы *Менск* у *Мінск* А. Жураўскі істотна мадыфікуе думку Н. Вайтовіч. Напомнім, што Н. Вайтовіч прыняла версію Я. Карскага (два разы гэта падкрэсліла на с. 50 і 51) і толькі ў выглядзе дапушчэння дадала, што гэтая замена магла быць «падтрымана» існаваннем закрытага *е* ў паўднёва-заходніх гаворках, хоць *Менск* і не знаходзіцца ў той зоне (г. зн. якісьці індукцыйны ўплыў, на адлегласці). Гэтае дапушчэнне ў А. Жураўскага пераходзіць у сцвярджэнне: «У адрозненне ад Я. Ф. Карскага Н. Т. Вайтовіч, прымаючы пад увагу даныя «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», з'яўленне форм *Мінск* і *Нясвіж* схільна тлумачыць унутраным развіццём фанетычнай сістэмы беларускай мовы». Як важкі довад супраць польскасці формы *Мінск*, А. Жураўскі падае факт, што аўтар «Баркулабаўскага летапісу» быў праваслаўны, непрыхільна ставіўся да каталіцызму і уніі, таму, маўляў, «не мог выказаць піетэт да польскай мовы». Але ж помнік гаворыць пра адваротнае! Яго мова ў значнай ступені спаланізавана.

Не пацвярджае беларускага паходжання формы *Мінск* і тое, што «ў расійскай мове ўжываецца толькі гэта форма». Вядома ж, што пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі афіцэры генеральнага штаба не праводзілі экспедыцый на мясцовасці, а склалі для расійскай адміністрацыі спісы населеных пунктаў і карты, спісаўшы іх з польскіх. Менавіта таму замацаваліся ў беларускай афіцыйнай мове шматлікія спаланізаваныя формы назваў нашых населеных пунктаў (Лиозно — Ліёзна, Татарщизна — Татаршчызна і г.д.). У свой час менавіта за гэты адрыў ад жывога народнага грунту крытыкаваліся статыстычныя даведнікі па беларускіх губернях. Так што напісанне *Минск* у расійскай мове не з'яўляецца доказам, што гэтая форма была жывой, народнай, беларускай.

Узорамі артыкулаў, дзе метад даказвання залежыць ад мэты, з'яўляюцца артыкулы А. Рогалева. Першы з іх «І ўсё ж — Мінск!» надрукаваны ў «Звяздзе» (26 ліпеня 1991 г.), а другі (кароткі варыянт першага) — у газеце «Рэспубліка», № 77 (115) за 1992 год. Яны вартыя таго, каб да іх прыглядзецца больш пільна.

У гэтых сваіх публікацыях А. Рогалеў парушае асноўны закон тапаніміі. Ён вырывае тапонім *Менск* з гнязда аднакарэнных слоў, заплюшчыўшы вочы на тое, што былі і ёсць іншыя геаграфічныя назвы з коранем *мен — мень* і ў нас, і ў Польшчы. Прычым, былі тапонімы з націскам не на першым складзе («жаловала перед нами жонъка подданая господарская повету волковысского з *мен(ь)ков* левоновая оксинья на девера своего» (Кніга Віцебскага земскага суда, 1537 г. С. 216). У сучаснай пісьмовай мове, якая перадае аканне (яканне), яны набылі іншы выгляд. А тапонімы з націскам на першым складзе захаваліся. Сёння яшчэ існуюць возера *Мена* на Ушаччыне, вёска *Верхмень* над Смалявічамі. Да нядаўняга часу існавала рэчка *Менка* каля нашай сталіцы. Існуе на беларуска-ўкраінскім пагранічны рака і мястэчка *Мена*, цяпер райцэнтр Чарнігаўскай вобласці. А змяніліся толькі два тапонімы — *Менск Мазавецкі* і *Менск*. Жывуць Мены! Ужо гэта павінна было выклікаць пытанне, чаму пералічаныя вышэй назвы жывуць. Верагодна таму, што яны не «скланяліся» ў афіцыйных каралеўскіх і вялікакняскіх паперах. Наша мова іх захавала. А назва павятовага *Менска* вельмі часта фігуравала ў дакументах. Дык чаму ж было А. Рогалеву не пашукаць агульнай прычыны аднолькавай змены формы двух *Менскаў?* Навошта, калі задача была не прычыну знайсці, а даказаць патрэбнае — форма *Мінск* утварылася быццам бы па законах нашай мовы. Для гэтага, пакінуўшы без увагі жывыя яшчэ словы з коранем *мен(ь)*, аўтар намагаецца прыцягнуць за вушы «для абгрунтавання» беларускасці формы *Мінск* у XVII ст. вядомую з'яву гістарычнай фанетыкі пачатковага перыяду пісьменнасці — пераход у славянскіх мовах праславянскага *ѣ* («яць») у іншыя гукі. Пакінуўшы ў спакоі *Менск Мазавецкі*, дзе, калі прасочваць эвалюцыю *«яць»* у польскай мове, магло з'явіцца *я* (параўн. *лесьны — ляс*), ён спрабуе даказаць беларускасць гука *і* ў тапоніме *Мінск*, сцвярджаючы, што горад знаходзіцца быццам бы недалёка ад зоны тых гаворак, у якіх ёсць *е* закрытае, «вузкае». Адсылаем чытача да карты 34 «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», на якой ён убачыць, што *Менск* знаходзіцца ў зоне чыстага (адкрытага) *е*, а гэтае «блізка» — каля 60 км. Заўважым яшчэ і тое, што ў саміх гаворках з закрытым *е* не адбывалася пераходу гэтага *е* ў *і* (*лес — лясны — лесавы*).

*(Працяг будзе).*

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

## Раман

***Пасля інтэлектуальнай дэтэктыўнай прозы, якую мы дасюль прапаноўвалі аматарам гэтага жанру, дадзены твор, магчыма, падасца занадта змрочным. Тым не менш, ён усё ж, нягледзячы ні на што, вытрыманы ў рэчышчы мастацкай літаратуры і без нацяжак да яе адносіцца і гэтым адрозніваецца ад таго патоку перакладной бульваршчыны, што захліснула зараз кніжныя прылаўкі, псуючы чытачу не толькі настрой, але і мастацкі густ.***

***Канешне, настрою нікому не прыбавіць і гэты твор. Чытачу давядзецца зазірнуць у пекла, якое людзі стварылі самі сабе, забыўшы Бога і сваю чалавечую існасць. Гэта дэтэктыў з яго дынамікай, інтрыгай, супрацьлеглымі намерамі бакоў, а таксама паступовым высвятленнем таго, хто ёсць хто. Але твор і не ўкладваецца ў вядомыя 20 правілаў для стварэння дэтэктыўных раманаў, што распрацаваў амерыканскі пісьменнік С. С. Ван Дайн. Хоць і яго таксама напісаў амерыканец, якога можна аднесці да школы так званага «крутога дэтэктыва» — з'явы спецыфічна амерыканскай, аднак сёння, як заўважаюць даследчыкі, нацыянальная прыналежнасць аўтара ўжо асаблівага значэння не мае, што сведчыць пра амерыканізацыю ў планетарным маштабе. Таму для нас ён можа ўспрымацца як раман-папярэджанне. Пайтару, уваходзячы ў ягоны свет, вы павінны быць гатовы да таго, што акажацеся тут у жудаснай адзіноце.***

***Застаецца дадаць, што аўтар рамана — Горас Маккой — найбольшую вядомасць атрымаў пасля выхаду ў свет фільма «Загнаных коней прыстрэльваюць, ці ж не так?», пастаўленага па ягоным сцэнарыі знакамітым кінарэжысёрам Сіднеем Полакам у 1969 годзе.***

***Раман «Бывай, жыццё, бывай, каханне!» на рускай мове не друкаваўся. Перадрук толькі з дазволу рэдакцыі і аўтара перакладу.***

Эрнэст **ЯЛУГІН.**

---

## *ЧАСТКА ПЕРШАЯ*

### *I*

Вось што адчуваеш, прачнуўшыся ўранку вялікага дня, якога чакаў два гады: няма прамежку паміж сном і явою. Ты адразу ж цалкам скідваеш з сябе сон. Нават не разумееш, адкуль гэта з'ўляецца ў целе душа.

Было яшчэ толькі некалькі хвілін на пятую, і я нічога не мог разгледзець у паўзмроку, але дастаткова было адчуць лёгкі подых ранішняга паветра, каб вызначыць час. А ўвогуле ў наш катух небагата трапляла гэтага самага паветра, а ўжо тое, што даходзіла да мяне, ніколі надта свежым не было. Нічога дзіўнага: паветра гэтае прабівалася з адзінага вакна праз дужа вялікі смурод. У бараку спалі на нарах семдзесят два вечна нямытыя чалавекі, і смурод, натуральна, стаяў невыносны, не параўнальны ні з чым: яго ўтваралі ажно семдзесят два пахі, адзін аднаго агіднейшы.

Аднак паветра ўсё ж пранікала, і кожнае раніцы я трохі яго ўдыхаў. Удыхаў прагна, усё роўна як гэта была найкапітоўнейшая парфума, удыхаў, ажыўляючы ў сабе памяць аб ранішніх гуках, чутых, здавалася, тысячы гадоў назад: пастукванне дзятла, кукарэканне пеўня, жаласлівае рыканне кароў.

Ля вакна крыху святлела, і некалькі чалавек ужо прачнуліся. Яны варочаліся на нарах, і ўсё гэтае смуроднае балота кашляла, прачышчала горла, нешта бурчэла, харкалася.

Мой сусед, Бадланг, схуднелы дазвання недалуга, утаропіўся ў мяне:

— А я зноў цябе сніў, мілочак, — прасіпеў ён.

«Гэта быў твой апошні сон, підар», — падумаў я і запытаўся:

— Гэтаксама добра, як і заўсёды?

— Лепей...

— У цябе і праўда каханне, радасць мая, — адказаў я, з асалодай падумаўшы, што ўжо сёння нарэшце заб'ю яго...

«Толькі каб Холідэй і Кобэт не падвялі».

Кобэт, турэмны пісар, па нядзелях замяняў наглядчыка ў клетцы наведнікаў. Гэты стары ўсё жыццё служыў наглядчыкам у турме, але цяпер ён ужо быў залішне слабы, каб пільнаваць такую зборню злачынцаў, і яму знайшлі лягчэйшае месца. Ён уцюрыўся ў Холідэй, як толькі ўбачыў яе ўпершыню ў сваёй клетцы. З тае пары ён спакваля рабіўся з ёю ўсё менш строгім, і, нарэшце, яна ўгаварыла яго дапамагчы арганізаваць уцёкі.

Ён павінен быў сустрэцца з ёю гэтай ноччу, узяць у яе рэвальверы і схаваць іх для нас: пакласці ў гумовую камеру, загерметызаваную воскам, і апусціць яе ў ірыгацыйны канал каля дыннай плантацыі, на якой мы працуем. Насупраць месца захавання рэвальвераў будзе ляжаць камень велічынёю прыкладна з чалавечую галаву, пазначаны белай фарбаю. Гэта ўсё, што патрабавалася ад Кобэта, і я спадзяваўся, што ён гэта зробіць. Тады ўжо я неадменна прыкончу гэтага недавярка Бадланга — і марудзіць не стану...

Раптам дзверы рэзка расчыніліся, і я ўбачыў у паўзмроку Харыса, сяржанта: ні вачэй, ні носа, ні рота — будка, абцягнутая гідкай скураю... Паклаўшы руку на прыклад вінчэстэра, ён крычаў нам: «Пад'ём!»

Пакуль мы ішлі ў сталоўку, я цягнуўся ў хвасце, каб Тока было лягчэй нагнаць мяне. Ён павінен быў бегчы разам са мною, і мне хацелася ўведаць, ці ўдалося яму заснуць хоць на які час. Мажліва, ён і вачэй не заплюшчыў: надта ўжо ўражлівы. Калі б я сам выбіраў сабе кента на сур'ёзную справу, дык спыніўся б на ім у апошнюю чаргу: вельмі зялёны яшчэ, першыя ўцёкі, і Бог яго ведае, як ён сябе павядзе, калі што-небудзь не заладзіцца.

А Холідэй арганізоўвала ўцёкі дзеля яго. Мяне яна выбрала, каб мець найбольшыя шанцы на поспех: спадзявалася на мой багаты вопыт. Аднак у прынцыпе я супраць не быў: я зусім не ведаў мясцовасці, не меў тут ні знаёмцаў, ні грошай, каб аплаціць паслугі патрэбных людзей, калі такія знайшліся б.

Вядома, Тока быў не лепшым кампаньёнам, аднак выбару я не меў: альбо з ім, альбо ніяк. Рызыка рызыкай, а мажлівасць была рэдкая. Багам прысягаю, мне б адно выбрацца адсюль!..

Тока ішоў так далёка ззаду ад мяне, што варта было мне наблізіцца да яго, як усе заўважылі б, што я хачу загаварыць з ім. Не той быў момант. Раз ці два, у сталоўцы, нашы погляды сустрэліся, я неўпрыкмет усміхнуўся яму і падміргнуў, каб трымаў сябе ў руках і не мітусіўся. Тока падміргнуў у адказ, і мне здалося, што ён мяне зразумеў...

Калі мы выйшлі са сталоўкі, зусім развіднела. Харыс узяў у рот свісток, даў кароткі сігнал, і ўсе кінуліся да прыбіральні.

Я запаліў цыгарэту і пачаў шукаць вачыма Тока. Праз нейкі час я ўбачыў, што ён набліжаецца да мяне, непрыхавана разыгрываючы раскутасць... І гэта ў такі дзень — калі ты ва ўсім павінен выглядаць як ніколі звычайным!

— Слухай, скаланіся! — ціха сказаў я яму. — Ты так рысуешся, што можна падумаць — увесь барак натапырыўся. Ніхто нічога не ведае. Ты, я і Кобэт. Усёк?

— Трэба, каб я выйшаў адсюль. Разумееш, трэба, — мала не прастагнаў ён.

— Спакайней, — сказаў я. — Выйдзеш. Толькі не тузайся.

— Думаеш, не пагарым?

— Калі пугачы на месцы — ні ў якім разе.

— Дык што, прыйдзецца страляць?

«А як жа інакш я прыкончу Бадланга», — падумаў я.

— Годзе, супакойся, — сказаў я. — Вазьмі сябе ў рукі. Сёння звычайны дзень. Нельга ні ў чым звяртаць на сябе ўвагу. Усё, я пайшоў... — Мне здалося, ён трохі паспакайнеў. — Ні аб чым не турбуйся. Я ведаю, што раблю.

Ён працягнуў руку да маёй цыгарэты, я аддаў яе яму і пайшоў да прыбіральні. Біерс, адзін з наглядчыкаў, стаяў ля дзвярэй. Убачыўшы, што я падыходжу да прыбіральні, ён здзекліва паглядзеў на мяне:

— Ты, мудак! Раней не мог? Дужа ты, я гляджу, далікатны. Цесна, пяйначай, з усімі?..

— Мне блага, — адказаў я. — Жывот баліць. Прыхапіла раптам.

Я ўціснуўся ў прыбіральню. Людзі выходзілі. Калі выйшаў апошні, я пачуў два кроткія свісткі Харыса.

Біерс прасунуў галаву ў дзверы прыбіральні і крыкнуў:

— Давай!

Я развёў рукамі: не магу. Наглядчык увайшоў у прыбіральню і цяжка, усё роўна як гіпапатам, рушыў да мяне. Я ведаў, што ён зараз зробіць. Гэта была ягоная любімая забава. Але, каб спраўдзіць задуму, трэба было цярпець.

— Чуеш? — гаўкнуў ён. — Устаць!

— Я хворы, — сказаў я прытворна пакутліва. — Зусім даходжу, пан Біерс.

Ён заляпіў мне поўху сваёй важкай мазолістай далонню.

— Прашу вас, пан Біерс, не магу болей...

Тады ён ударыў мяне так, што я ажно абваліўся на падлогу.

— На месца! — зароў ён.

Я ўзняўся і паплёўся. Біерс ішоў за мною і біў па нырках прыкладам карабіна.

«Гэта табе яшчэ адрыгнецца», — падумаў я.

Я заняў месца ў калоне, якраз ззаду ад Тока, і калі Харыс загадаў нам збочыць направа, мы апынуліся поруч. У нашай калоне было пяцьдзесят чалавек. У канвоі — шэсць конных наглядчыкаў. Шлях пралягаў па нізіне — да ірыгацыйнага канала, праз які быў перакінуты невялікі масток, потым збочваў на поўнач, у накірунку да гор, да дыннай плантацыі.

Выйшаўшы з лагчыны, мы пацягнуліся па старым люцэрнавым полі, дзе калісь нарыхтоўвалі сена. Над гарызонтам падымалася сонца — бліскучае, усё роўна як меднае. Яно не радавала колерамі ды адценнямі, а толькі пякло, паліла, смажыла, смаліла. Яшчэ не было палавы шостай, а машыны ўжо ехалі адна за адной па аўтастрадзе. Раніца была яшчэ такая ціхая, што мы чулі кожны матор. Людзі ў машынах спяшаліся, імкнучыся дабрацца куды трэба, пакуль сонца не ўзышло надта высока: тады, а палове адзінаццатай і асабліва ў адзінаццаць у даліне будзе як у распаленай печцы.

Харыс запаволіўся, і я зразумеў, што мы ўжо амаль дабраліся да мастка. Сяржант заўсёды ступаў на яго апошні, каб лепш за намі сачыць.

На мастку я прыціснуўся да Тока.

— Цікуй камень, — прашаптаў я.

Тока не адказаў. Я зірнуў на яго скоса. Ягоная верхняя губа торгалася.

«Божа! — падумаў я. — Гэты смаркач усё заваліць!»

— Спакайней, — прашаптаў я. — Аўтобус не спозніцца...

Паколькі ў нас не было гадзінніка, а трэба было разлічваць усё да секунды, я прапанаваў Холідэй прыняць за сігнал гукі клаксана аўтобуса з Грэйхаўнда. На горнай дарозе было шмат небяспечных паваротаў, і шафёр гэтага аўтобуса заўсёды сігналіў у гэтай мясціне. Ён праязджаў тут кожнае раніцы хвілін у пятнаццаць на восьмую і даваў на першым павароце два вельмі гучныя сігналы. Праз некалькі хвілін, выходзячы на новы паварот, ён сігналіў зноў. Трэці гудок клаксана і быў нам сігналам для ўцёкаў. У гэты час Холідэй і Джынкс чакалі нас на дарозе, прыкладна за кіламетр ад аўтастрады, ля эўкаліптавага гаю. Тады мы з Тока павінны былі выхапіць рэвальверы і кінуцца да гаю. Там мы былі б у бяспецы, бо гай быў вельмі густы і наглядчыкі не маглі прабрацца праз яго на конях.

Мы прайшлі масток, я шукаў вачыма камень. Тока ішоў злева ад мяне бліжэй да канала, але ўвесь час глядзеў наперад, так што разлічваць на яго не прыходзілася. Мы ўсё бліжэй падыходзілі да поля, дзе наша калона павінна была раздзяліцца на дзве, а я ўсё яшчэ не ўгледзеў гэтай праклятай камянюгі...

— Стаяць! — крыкнуў Харыс.

Калона спынілася.

— Першыя восем з Бартанам!

Бартан, наглядчык, адлічыў восем чалавек і павёў іх цераз поле.

— Уперад, марш! — гаўкнуў Харыс астатнім.

Мы рушылі зноў. Я кінуў Тока хуткі позірк і ўбачыў, што ён збляднеў як палатно. Божа літасцівы, гэта ж трэба быць такім маладушным! Не можа нават умясціць у сваю галаўню: калі камень не на месцы, застаецца адно — распачаць усё нанава. Я падмаргнуў яму колькі разоў і тут, павярнуўшы галаву, убачыў раптам гэты камень!

Велічынёю з дзіцячую галаву, ён быў пазначаны зверху белай фарбаю. Ад радасці ў мяне аж сэрца сціснулася. Камень ляжаў сама болей метраў за сем-восем ад пераносной прыбіральні на невысокіх колах. Ну і Холідэй, ну і Кобэт! Я зірнуў на Тока. Ён, вядома, каменя не прыкмеціў...

— Стаяць! — зароў Харыс.

Калона спынілася.

— Дзесяць наступных — за Біерсам.

Біерс адлічыў дзесяць чалавек, і наша група пацягнулася за ім цераз поле.

— Я нічога не бачыў, — прамармытаў Тока.

— А я — бачыў, — прашаптаў я.

— Праўда?!.

— Не тузайся...

— Я так звёўся...

«Яшчэ не так звядзешся», — падумаў я.

*(Працяг будзе).* ©

